# СЛОВА ДА УЧЫТАНЬНЯ

Той, хто жадаў пазнаёміцца са звыкла-дабротна-клясычнымі вершамі, пэўна, спачатку расчаруецца, бо ў кнізе сабраныя творы транслёгічныя, але гэта не азначае, што творы зусім не чытэльныя. Наадварот, некаторы язь іх успрымаюцца, на адным сваім пэўным узроўні, вельмі лёгка, і ніхто не прымушае шукаць транслёгічныя пераходы да іншых узроўняў, проста калі ўзнікае падобная цікавасць, то заўсёды будзе гэткая магчымасьць. І ўвогуле, раім не адкладаць у глыбокую кішэнь пачуццё гумару.

Але што такое транслёгізм?

Транслёгізм (транс — скрозь, лёг – слова, закон, тэкст) — літаратурна-мастацкі мэтад[1], які стварае (сэнсавыя, пачуцьцёвыя, абстрактныя...) лябірынты пранікненьня скрозь бясконцамерны тунэльны тэкстасьвет, дзе тунэлі безупынна то адкрываюцца, то зачыняюцца; спалучае асацыяцыямі розныя узроўні звышмэтарэальнасьці. (Звышмэтарэальнасьць—гэта -УСЁ-УСЁ; усе вядомыя й невядомыя, рэальнасьці: нерэальнасьць, антырэальнасьць, ірэальнасьць, сюррэальнасьць, сац. рэальнасьць, р а м а н т ы ч н а я рэальнасьць, тэхнарэальнасьць, нонрэальнасьць; наркатычная рэальнасьць, рэальнасьць гульні і г. д.).

Паводле транслёгізму звышмэтарэальнасьць ствараецца зь дзірак (адтулінак-адсюлінак).

А вось гэтыя адтулінкі-адсюлінкі складаюцца ў лёгемы (носьбіт тунэльнага пераходу У залежнасьці ад выбраных умоў, у тэкстасьвеце лёгемай могуць быць — фанэма, графэма, слова, фраза, абзац...) А лёгемы й дазваляюць ствараць транслёгічныя

---

[1] Мэтад—у антычным разуменьні гэтага слова шлях мысьленьня.

пераходы ад адной пэўнай рэальнасці да іншай. (Больш падрабязна пра транслёгізм можна даведацца ў артыкуле «У глыбіню праз далягляд», надрукаваным у філасофскім сшытку газэты «Культура» «ЗНО» ад 31 жніўня 1994 г.).

І можа быць ва ўсіх гэтых тлумачэньнях прытаілася адна маленька недакладнасьць. Можа быць транслёгізм стварае не лябірынты пранікненьня скрозь тунэльны тэкстасьвет, а галерэі. Безумоўна, вялікага сэнсавага адрозьненьня паміж гэтымі паняццямі няма, бо, напрыклад, лябірынты пячораў называюць галерэямі, але ёсьць і мастацкія галерэі, таму для літаратурна-мастацкага мэтаду слова «галерэя» зьяўляецца больш ёмістым, больш сэнсава нагружаным. Адсюль і назва кнігі «Праз галеРэю», дзе вялікае «Р» —пачатак слова «Рэй» — тут сымболю ўсіх Рэальнасьцяў, праз якія вядзе галерэя.

Структуальна кніга разьбіта на маленькія разьдзельчыкі, як і ў мастацкіх галерэях сустракаюцца тэматычныя залі, так і тут, канцэптуальна ці інтуітыўна зьвязаныя паміж сабой вершы прадстаўлены ў пэўным разьдзеле. Таксама, як у большасці з мастацкіх галерэяў, можна вольна пераходзіць з адной залі ў іншую, нават не заўважаючы гэтага, так і ў кнізе няма рэзкага разьмежаваньня разьдзелаў, чытач сам можа адчуць як перайшоў з адной залі ў іншую, хаця рымская лічба ў левым кутку старонкі, падкажа, што тут закончыўся адзін разьдзел і пачаўся новы.

Яшчэ ёсьць звышпадзел кнігі.

Першая палова: вершы якія, так бы мовіць, ускосна можна аднесьці да транслёгічных. У асноўным у іх закладзены кантэкстуальныя пераходы з адной (тэкставай) рэальнасьці ў іншую, якія зьдзяйсьняюцца з дапамогай абсурду, гульні слоў, алітэрацыі, альбо формы твора (напрыклад, хайку і

танку — ускосная транслёгічная сувязь паміж японскай і беларускай паэтычнай традыцыяй).

Другая палова: відавочна транслёгічныя творы (асбліва ў разьдзалах VII (а) і VII (б) — па тытулу ўжо можна здагадацца), якія рэкамэндуецца ня толькі чытаць, але й перачытваць па пэўным зададзеным альгарытме. Для аблягчэння гэтай задачы ўводзяцца падказкі з адмысловымі сымболямі на ўзор альгебраічных: х — слова, х — у — радок. Спадзяемся, гэта нескладана.

Цікавага ўчытаньня.

Сяргей МІНСКЕВІЧ.

* * *

(трыялет)

Напісаў я вершык
Пра ракету «Пэршынг».
Пра ракету «Пэршынг»
Напісаў я вершык.
Скарацілі «Пэршынг»,
А застаўся вершык.
Вось застаўся вершык
Пра ракету «Пэршынг».

# I

* * *

Аднойчы
Цёмнай ноччу
Я надта быў ахвочы
Убачыць чыйсьці вочы,
Лепш пару, ды жаночых.

Вось крочу
Цёмнай ноччу
І з бруку трохі збочыў,
Гляджу: на доле — вочы
Мне пад нагой лыпочуць.

А ноччу
Цёмнай вочы —
Вой, нэрвы як ласкочуць!
Схіліўся... дый адскочыў,
Бо ў брудзе нос замочыў.

# НАЧНАЯ ГАРБАТА ЛЯ ВАНДРОЎНІЦКАГА ВОГНІШЧА

1

Як хораша і весела
Жаваць бязь песьняў
І мычаць
            з мычаньнем аб мычаньні
І чакаць
            з чаканьнем аб чаканьні
Ці чарканьня,
            ці — датнага жыцьця!

2

Са шклянкі гарбаты
Я выпіваю ~~ПОЎНЮ~~
                  Поўня, поўня,
                  як цябе абсмакталі...
                  не лепей —
                  САТУРН,
Як яечны жаўток,
І шклянкі акраек
Рэжа цікаўны язык,
А ~~поўня~~ Сатурн
Рэжа колцам вантробы.

3

Не, а ўсё ж прыемна
Удыхаць

І адчуваць,
Што сьвежае паветра
У лёгкія ліецца
І робіць для крыві
Бадзёры гармідар!

## ХОР ГАЙДАМАКАЎ

— Гэй, уздымем слоік зь півам,
Гайдамакі розных масьцяў,
Ад хваробаў, ад напасьцяў
Вып'ем духам, без адрыву!

— Ваша шчасьце і здароўе,
Валацугі, бомжы, панкі,
І, вядома, нашы паны,
Нашы пекныя сяброўкі!

— Мілыя, ану цалуйце,
Нас у змочаныя вусы,
Не сапсуем вашы густы!
Міласьць, радасьць нам даруйце!

— Каб зайздросьціў белы сьвет
Нашым скокам на руінах!
Сьпеваў, плясак вольны рынак
Пабудуем без манэт!

— Піва пеннага глыток
Лепшая за ўсе валюта!
Весялімся, браткі, люта,
Каб пачуў Уладзівасток!

— Стоп! Я думаю, мы мусім
Выпіць зараз усім народам

За уздым і за свабоду
За багацьце Беларусі!

(усе разам)

— За уздым і за свабоду,
За багацьце Беларусі!
За уздым і за свабоду,
За багацьце Беларусі!

* * *

Бяздомны паэта
На скрыні для сьмецьця
Чытаў свае вершы
Катам дваравым,
І хмарка прыплыла,
І хмарка заплакала
Ад сьмеху?
                    Ад рыфмы
Прагнала катоў.
А бедны паэта
Прыкрыўся пакетам
І кроплям рухоткім
Чытаў і чытаў,
Што ў горадзе Менску
На сьметніку кожным
Сядзіць па паэце
І вершы чытаюць
І хмарам і сонцу;
Катам і мышам,
Якія фырчаць
Дый нешта кусаюць.

# ПОМНІК З ГУКАВЫМ АФАРМЛЕННЕМ

**Абмакнуўшы мазгі ў ацетон**
**Я пяю і сьпяваю пра...**
**В. Булгакаў.**
**Я памятник воздвиг себе нерукатворный...[2]**
**А. Пушкін.**

Там дзе шумны прашпект
да пляцу прыходзіць
і тоўсты асфальт
не разбурацъ
люду тысячны пятак,
завяжу я свой погляд
на вузел марскі
і ногі шырэй растаўлю —
гэтак мушу стаяць
пакуль... покуль...
чорт, што там далей...
Пакуль, мусіць ня здохну,
ці страўнік хрыбта не абдыме.
Гэтак маю стаяць
і буду раўці
аб нечым... пра... пра...
чорт, што там далей...
аб нечым, мабыць, сьмешна-
жалобным...

---

[2] Уз-ладзіў помнік я сабе нерукачынны. (з руск.).

Вось люд той ня пяткай
ўзгадае калі-некалі,
што нехта... што хтосьці...
чорт, што там далей...
што нехта, здаецца, стаяў і хрыпеў,
як помнік з гукавым афармленьнем...

* * *

Я таксама маю вочы
І таксама хочу бачыць
Я таксама маю вушы
І таксама хочу чуць
Я таксама маю ногі
І таксама хочу крочыць
Я таксама маю рукі
І таксама хочу мець

Бо таксама маю штосьці
Тое штосьці ад чагосьці
Хош ня хош мы ўсе жывем

II

* * *
(хайку)

Бліскавіца з мроі.
Цьвікі. Цьвікі як жалуды.
Пачатак плыні.

* * *
(хайку)
Клецкі ў слоіках,
Мяккія хоць пальцам ткні.
Могілкі мазгоў.

* * *

(танка)

Хай я маленькі
Нібы мураш у цяню
Вялікіх людзей
Крокам упэўнена ўсё ж
Дасягну промняў сонца

* * *

(танка)

Пачвара ў шыю
Запусціла мне кіпці
Боль клёкат крыві
Але я дацягнуўся
Пальцам белым да кнопкі

* * *

(танка)

Гэх, рэчка, рэчка.
Луска цёплая твая
Мне лашчыць ногі,
Стомленыя пустэчай.
І я ня хочу ведаць...

III

* * *

Крок...
        Крок... Крок...
                            Крок...
Іду.
З храбусьценьнем
                            пабітая плітка
Пад маімі нагамі крышыцца
І крамсае падэшву
                            апошніх красовак.
Мільготная лямпачка плача
З-пад
  карозіяй гідка скалечаных кратаў,
Зь іх па бруднай анучы
      мёртвай павуціны
Кропліць кроўю
                            іржа...
І сьціскае, як жахам,
Рэха кожнага кроку...
Крок...
                Крок... Крок...
Я ўцягнуў хударлявую шыю ў каўнер,
Але ня вельмі халодна,
Дагнаўшы, скразьняк разганяе
Спрасаваную затхласць, і кружляе
У экстазе шэрага вальсу
Цэмэнтавы прах...

Крок...
Крок...
Мой шлях — крывы цьмяны тунэль —
Нара,
Спачатку бяздушны,
А потым раздражняе агіднаю злосьцю,
Што атрутай сьцякае
З муровых грудкоў,
Як са смочкаў бетона!
Крок...
Там у сьцянах —
Мірыяды бычыных вачэй
спадылба.
Крок...
Крок... Крок...
Адна надзея,
Што я не памыліўся
Пра белае выйсьце,
Яно не міраж!?

* * *

Прамень з начнога вакна,
Як стары карабель
З мачтай спрахнелай і кілем,
Асьвятляе падлогу:
Дошка, шчыліна, іржавы цьвік,
Папяровы ляншафт
Прасторы пакоя.
    Мой прыватны Сусьвет —
    Вэрхал думак і віры пачуцьцяў —
Мікракосмас у кубе!
Я ў цэнтры. Я — гаспадар!
Я прагну прымусіць
                замкнуцца бясконцасьць!
(Колькі ў вушку іголкі
Зьмесьціцца новых ідэй?)
І спраўдзіць мяжу
Ад вонкавай мітусьні
                агульнага харчаваньня.
Але сівы прамень
Мне здаецца старым караблём,
Ён вольна імчыць за мой далягляд —
Працінае замкненьне!
І я адчуваю вельмі выразна,
Што нават акружнасьць Эўкліда
Мае ў часе пункты разрыву…

# АБЛОМ

Белая столь, муха марудна паўзе —
Адвечны малюнак апатыі,
І думкі заганарыліся ў паўзе
Гумавай, не да канца напятай.

З нуды позехам сківіца скута,
Забыты ўказальны палец на вуснах,
Быццам прыліплы цыгарэтны скрутак,
І выраз твару да агіды бязглузды.

Вакол вэрхал, пыльны папяровы хлам,
І ўсё непраглядна шэра і пуста,
Здаецца, сабою пакінуты сам
На бязьдзейным ложку Пракруста.
Хачу варухнуцца — цяжка, зьнікае
хаценьне,
І толькі сьвярбіць, як у вочы лямпачкі
ніць,
Жаданьне адшукаць філасофскае
рашэньне
Праблемы:
нічога ня робячы, нешта зрабіць.

* * *

Кроплі фараў скаціліся
З дрыготкага палатна вечара
Іх пырскі колка
сыпнулі па шчаках...
Ап'янела ад мітусьні агнёў
І ад рокату рухавікоў
паветра.
Усё жывое ў віры імкненьня
Здаецца згубіла сэнс...
Броўнаўскі рух
навакольных часціцаў,
Неўпарадкаванае
хістаньне,
суненьне,
круценьне.
Маскі,
маскі...
Твары.
Твары з крывымі дужкамі вуснаў,
Куткі якіх апушчаны да споду.
І толькі Ён-Я,
Гайдамак?
Панк?
Бадзяга ў рызьзі
Сярод іх — недарэка,
вар'ят
Сьмяецца на балясах маста.
Толькі ён нерухомы,

Ён сьцяты сутаргай болю,
Што вырываецца праз сьмех...
Вакол пустэчны,
                    нікчэмны рух.
Сумны!
А колкія пырскі фараў
                    зусім не бадзёраць...

## ВЭКТАР

Зьвініць цеціва лука
Кропкай страла ў паветры
За сінім хаваецца гукам —
Наканаваны вэктар.

За чорнай павязкай напрамак,
Дрэўка гудзе супраць ветру,
Праз жорсткую шэрую пляму
У лёсе прарэзаны вэктар.

Праз пальцы дзіды навалы —
Ружа пачуцьцяў, а сэктар
Буйнейшы — паўночны са шквалам,
Насустрач якому вэктар.
Імчыцца страла, як думка,
У падсвядомую мэту,
Падзеньняў і ўзлётаў сума
Складае кірункавы вэктар.

IV

C. X.

* * *

Трапяткі дыямэнт,
Зіхацеючы сонечным танцам,
Запаляе Сусьвет
І сам прагне пратуберанца.
Летуценьне і існасьць разам
Пульс злучае ў навальніцы
Дый узносяцца крылы начніцы
Між аблокаў экстаза
Напаткаць агонь бліскавіцы.

А. С.

* * *

Засынаю, як рыба на паветры,
Слабее сьветаколераў гульня —
Вось піва п'ю і бачу нетры
Тваіх вачэй праз пену дня.

Яны, што фундукі-гарэхі,
Начышчаныя да бляску, да граху.
Ух зьем іх сабе на пацеху,
Пакуль адчуў нязьехаўшай страху...

Пакуль у галаве вандруюць ветры,
Пакуль вакол віруе мітусьня,
Пакуль я засынаю на паветры,
Як рыба, што хапае пену дня.

У. А.

* * *

Ноч як чароўная кветка
Распусцілася ў сонечных промнях
Толькі ў сьне
    Нібы ў сьне
    пазаразважным
Надыходзіць світанкам раскоша
        І водар ружовы
                па жылах
        І струмень вадаспадны
                па сьпінах
        І вясёлка як шалік
                абодвум

# ЕВЕ

Ты зьязджаеш... і сонца заплакала,
І сьцялася неба ў лужыну,
Няўжо лёс наш — толькі парабала,
Паварот на 180 суджаны?

Так, сустрэліся два невядомыя,
Вясною, быццам на ростаньнях,
Так, даведаліся, што падобныя,
Хаця з розных, здаецца кораняў.

Хоць хвіліны і мілі множацца
І зьбягаюць... для душаў роднасных
Успаміны ня стомяцца доўжыцца,
Каб дарыць адчуваньне бясконцасьці.

В. Ч.

* * *

Ты — Алькор, я — Міцар,
А можа наадварот,
Хто танцор, а хто цар,
Пераблытаў хвілезварот.

І няма пачуцьцям мяжы,
Рукі-хвалі — анёлавы дар,
Удваіх на пульсарным крыжы
Мы расьпяты: Алькор і Міцар.

Гронкі вогненных зор
П'е імклівы, няўсьцішаны рот
Ты Алькор, я — Міцар,
А можа наадварот.

А можа зь нястрыманым крыкам
Растрыножым ў сабе Мінатаўра
І ўзьляцім да зьнічнага піка,
Трохкутніка альфы Цэнтаўра!

---

Падказка 1 (не для астраномаў): Алькор і Міцар — зоркі Вялікай Мядзьведзіцы, у перакладзе з арабскай — вершнік і конь.

Падказка 2 (не для астраномаў): альфа Цэнтаўра — найбліжэйшая да нас зорка. Яна мае трайную будову.

V

**З цыклю «Пэйзажысьціка»**

Слупы, як цьвікі натырканы
У дошку асфальтавай цьвердзі,
Зады машынаў фыркаюць
Каб пыху чыюсьці сьцьвердзіць.

Салодкай дымковай пазяхаю
Адорыць паветра мардас,
Трамвай празьвініць бляхаю,
Аб'едзе Прыпынак МАЗ.

Раньцо паўстае пярэстае,
Пярэсты і наш народ,
Эх, быў бы балкон па-чэснаму —
Уласны мой самалёт...

**«РАНІЦА У ГОРАДЗЕ»**

## З цыклю «Пэйзажысьціка»

Цытрынава-яблычны ліст
з аблокавай цэдзьдзю уніз…
Мода прыроды на шкіль-ірацыянальны
абрыс…
Шыры і пышы не! Рост худы. Ды пануры
пагост…

Косьць…
Нос…
Нос…
Ліст…
І парасон дзе-нідзе…

**«АСЕНЬНІ ПЕЙЗАЖ»**

## З цыклю «Пэйзажысьціка»

Прастола з добраю пляшкай,
Нібы косма-дром, дзе рыкета на ўзьлёт:
Будункі-талеркі, мышыны-шкілішкі,
Уваход ЦКП[3] — хрумглы рот.

5. 4. 3. 2. і 1.
Запалу апухшняя кропля,
І стольнік, як стапель аддай —
Наперад нясуць ногі-соплы!

Гэй, космас, судзір'і, камэты,
Цямнеча, вакнуўм і бязважкасьць,
Уз-дым — аўтаномнасць палёту,
А прызямленьне — ня цяжкасць!

## «У БАРЫ. БЫТАВАЯ ЗАМАЛЁЎКА.»

[3] ЦКП — Цэнтар Кіраваньня Палёту.

## З цыклю «Пэйзажысьціка»

Дзе люк жалезны замест сонца
Па дну шурпоча трух фе-калій
Віхруе слых іх «хіх» хрыпотны,
Падсмрудных булькаў пупчыць зграя —
Пукхмеркі
зьлепкаватыя
барадаўкамі
ласкотныя
мацкаюць
аналы
занальных
каналаў
канальяў
і зацыяў
там
Дзе люк жалезны замест сонца

**«БЯЗ НАЗВЫ»**

## З цыклю «Пэйзажысьціка»

чаротоы чаплі чорнымі чубамі чэшуць ачмурэлы чэраў вечара
а бот у рот эпілепсіка ці бо псіха ціха глыбока патопнуў
думаеш тумкаеш мокнеш мохнеш гаркнеш ды чакаеш нечага
адна жабоціна са дна жэўжыцца можа жэніцца квохча
журботна
вусны сьлінькія сінімі цуглямі з гуслямі ўвушна цягнуць
сонца соц'юмам збагнена за берагам праз метар цемры
дасягне

## «ЗАХОД СОНЦА НАД БАЛОТАМ»

## VI

* * *

Паводле прац мастака
Кейта Харынга

Я — чалавек фалас,
І мне замінаюць вушы
Лашчыць нябесныя похвы.
О, чароўны рубін!
Я гэйзера
фанатычны
прыхільнік!

# СТЭРЭАНАРКАВЕРШ

Мой чорны да сала
камбінізон
Хавае брудныя вены,
Якія, як зьмеі
ў шлюбны сэзон
Рагочуць, скурай
да пены
Узьбіваючы косныя
мозгі-і-і-і-і-і

Я — вожык уф уф
Я — пыжык фу фу
Вох ножык кхру
кхру
Вось ліжа ук хр ук хр

Мне холадна
горача
горача
голы
Гострых тысяча
тысяча
тысяча
голак
Расьце не зь мяне
не зь мяне
не зь мяне
А наспач
наспач
наспач
ткне

## ПАРТРЭТ ДНК ПАДЧАС ТРЫЗЬНЕНЬНЯ З БУДУНА АДНАЧАСОВА НА ДВУХ МОВАХ

сьнег СНОЎ
ракою РЭЙН
цячэ праз ДЭСЭРТ
пачуццёвых НОТ.
ЦМОКам дыму
бясСЭНСу тлее
СЛОЎ СЭРІТАНТынава
зблытаны КНОТ.
КАП — кропля
чарку ДРАПае,
нібы ваконнае ш-КЛО
кіпцюрамі КАТ — кот.
гэх, ЗВАЛІЎ
у ВІР глоткі
садкую РЭШТу —
як распалены ДРОТ…

---

Падказка: трэба трошкі ведаць ангельскую мову.

# ЭПІЗАД ЖУЦЬЦЯ

Гарыць лухтар
Лятаюць шмухі
        Хаду спыніў мулнар,
        У штаны засунуў крукі.

Цьмяніць ліхтыр
Жагаюць млёхі
        Зяхнуў лезь-лезь млыкныр
        Прыстроіў жабу шлёхі.

Мігціць лохтар.
Зьнікаюць жмухі.
        У трусах жуе амар
        І вырабляе жухі.

Ляжыць млянар,
Хрыпіць, бы хрукі.
        Загас даўно лягтар.
        Паснулі ціха мрухі.

* * *

(агідны верш)

Тоўсты брухаты з шыяй сьвіньні
Кінуў плямаю бруду
У тонкага кволага,
Якога адразу завалакло
Воблака смуроду.
Кволы зрабіўся яшчэ больш кволым
і зьнік.

Тоўсты прабулькаў паветрам,
І паўстаў перад ім
Наступны тонкі, жоўты,
Які мармытаў нешта.
Тоўсты скрывіўся
І пагардліва выпхнуў
Порцыю бруду.
Жоўты зрабіўся яшчэ больш жоўтым
і зьнік.

Тоўсты хістаўся ў паветры.
Ён стаяў перад болей таўшчэзным
І сьціскаў-цалаваў
Тлушчэзную руку. —
Б'э — з болей заплылага роту
Бурая выпаўзла хмара.
Тоўсты ня зьнік. Ён удыхнуў смурод
увесь
і з задаволеным выглядам пакрочыў
у свой кубінэт.

## ЗГВАЛТАВАНАЕ ЛЮМПЭНКІ

(агідны верш)

Прарасьлі лушпіны
Шэрым фіялетам,
А нарваў люм'бімай
Дарагой люм'пане
«Жёлтые тюльпаны»
З ТДК касэты.

І зазьзяла люмпэн'чка
Да мяне аханьнем…
Адключыў я лямпачку
Адключыў я лапачку
Адключыў я лыпачку
Без прыстасаваньня.

# ВЫСТУП РОК-ГУРТУ

| **вакал** | | **бубнар** | | | **сола** |
|---|---|---|---|---|---|
| | бі | ў бубны | | | |
| | | ў бубны | бі | | |
| | бі | ў бубны | | | |
| | | ў бубны | бі | | |
| Я ішоў па асфальце | бі | ў бубны | | Гэй | людзі! Рытм |
| | | ў бубны | бі | | жорсткі |
| І ня ўгледзіў цьвік | бі | ў бубны | | Мы | вам падорым |
| | | ў бубны | бі | | зараз |
| Зьявіўся ён за вухам | бі | ў бубны | | Мы | рок-сэкс- |
| | | ў бубны | бі | | монстры |
| | бі | ў бубны | | | |
| | | ў бубны | бі | | |
| Па гэтакай дарозе | бі | ў бубны | | Па | гэтакай дарозе |
| | | ў бубны | бі | | |

| | | |
|---|---|---|
| Бо-болей не хаджу | бі ў бубны | Бо-болей не хаджу |
| | ў бубны бі | |
| | бі ў бубны | |
| | ў бубны бі | |
| | бі ў бубны | |
| | ў бубны бі | |
| Я ішоў па бруку | бі ў бубны | Дзяўчаты! Сьвеціць |
| | ў бубны бі | сонца! |
| І ня ўгледзіў люк | бі ў бубны | А-ну, кахайце нас |
| | ў бубны бі | |
| Дый выплыў | бі ў бубны | Мы рок-сэкс- |
| на балоце | ў бубны бі | монстры |
| | бі ў бубны | |
| | ў бубны бі | |
| Па гэтакай дарозе | бі ў бубны | Па гэтакай дарозе |

ў бубны бі

Бо-болей не хаджу бі ў бубны бі Бо-болей не хаджу
ў бубны

бі ў бубны бі
ў бубны

бі ў бубны бі
ў бубны

Я ішоў па пыле бі ў бубны бі Сябры! Узрушце
ў бубны торсы

І ня ўгледзіў цэглу бі ў бубны бі Сьпявайце разам
ў бубны з намі

Яна прабіла дзірку бі ў бубны бі Мы рок-сэкс-
ў бубны монстры

бі ў бубны бі
ў бубны

Па гэтакай дарозе бі ў бубны бі Па гэтакай дарозе
у бубны
Бо-болей не хаджу бі ў бубны Бо-болей не хаджу
ў бубны бі
бі Ў бубны
ў бубны бі
бі Ў бубны
ў бубны бі
Мы рок-сэкс- Мы рок-сэкс-
монстры монстры
Мы рок-сэкс- Мы рок-сэкс-
монстры монстры

| | | | |
|---|---|---|---|
| Мы рок-сэкс-<br>монстры | | | Мы рок-сэкс-<br>монстры |
| | бі ў бубны | | |
| | ў бубны | бі | |
| | бі ў бубны | | |
| | ў бубны | бі | |
| Па гэтакай дарозе | бі ў бубны | | Па гэтакай да позе |
| | ў бубны | бі | |
| Бо-болей не хаджу | бі ў бубны | | Бо-болей не хаджу |
| | ў бубны | бі | |
| | бі ў бубны | | |
| | ў бубны | бі | |

VII (а)

# НАТУРАЛЬНАЕ ПАХОДЖАННЕ ЧАЛАВЕКА

**Чалавек паходзіць з малпы.**
**Ч. Дарвін.**

| | |
|---|---|
| У самым пачатку была адна | МАЛПА |
| А потым зрабілася маса — шмат | МАЛПАК |
| Ніхто зь іх ня носіў сподні, | КАЛПАК |
| (Хаця калпак ня носіў | КАЛЧАК), |
| Прыдумалі зброю: лук і | КАЛЧАН, |
| Каб быў забіты каштоўны | КАЛАН, |
| А можа і мамант замест | КАЛАНА, |
| І елі плады, напрыклад — | КАЛІНА, |
| Выдатная рэч — вітаміннае | КАЛІВА, |
| А дрэвы і вугаль сталі, як | ПАЛІВА, |
| Ня так як бэнзіна, не для | ПАЛІВАК |
| (У тэксьце рэкляма: купляй зь Ірана | ПАЛАВІК), |
| Пасьля вынайшлі рухавік — | ПАРАВІК, |
| І кожны займеў сабе | ЧАРАВІК, |
| Прыйшло стагодзьдзе — проста | ЧАРАВЕК, |
| І, глядзь, жыве ўжо наш | ЧАЛАВЕК |

## ЯК ЗДЫМАЛІ ВІДЭАКЛІП ПРА КЛАПА І ВЫКРАДАННЕ МАЛАДОЙ

к(х)лоп ...........................
ш(х)лоп
клоп...............................
шлоп
клюб ...............................
шлюб ,
к(г)лыб ............................
ш(г)лыб
к(х)леб.............................
ш(х)леб
клуб ................................
шлуб
кляп................................
шляп
клёп ................................
шлёп
кліп.................................
шліп

---

Падказка: у творы выкарыстаны матывы п'еса Ул. Маякоўскага.

ШВАРЦЭНЭГЕР І ДЗЮЙМОВАЧКА

СКаЛА І оо

---

Правільнае чытаньне:

СКАЛАскаласкаласкалАСКАЛаскаласкаласкаЛАСКАласкаласкаласкъласКЛАСкласкласкъЛАСКАласкаласкаласкалАСКАЛаскаласкаласкала

СКАЛАскаласкаласкала…

**Мінскевіч С.—Туровіч А.**

* * *

Кіаблок цяцьля аз бане,
Найкасон ціцьсьье каяр,
Неезеля шана таплане,
Ан лепо юцьсе авыяр.

Кта шупі я нсы дунаро —
Этпа соўля і каўпалет,
Нюгама ваймо нінаўзроў
Ас гамето і зь байлю tete-ä-tete.

---

Гэты верш пра прыроду, працу, мову і каханьне, напісаны па-беларуску, і ўважлівы чытач здолее яго прачытаць.

Падказка: X∞ (X у бясконцай ступені, дзе X — слова, накшталт цыркемы).

**СУСЛЯП**
**(СОН ГАННЫ)**

Шмарка
ідзе.
Ганна
ладу
ласку
сьніць і...
Року
кляцьба!
— Ах,
вужы!
і
качар
тут!
Мабыць,
шуму
на
гадоў...
гідру...
Шмарка
ідзе...

---

Падказка: X∞, дзе X=1 радок (для поўнай карціны можна паўтарыць кожнае слова некалькі разоў запар).

* * *

Калені алені лекі ні і
Ступалі тупалі упалі
Заранка аранка ранка Анка
Плакала лакала акала

Вершык ёршык шык...
Цікавы? Ікавы? Кавы? А вы?

VII (б)

* * *

Горад — тут пуп дарог,
Аблок, бы рыб колба,
А гром — шабаш морга.
Асобам узор ісьці розума боса.

Горад — пуп тут дарог!

---

Падказка 1: х—у=у—х (паліндром).
Падказка 2: (не для філёлёгаў): ц=тс.

## КАРОТКАЕ ЗАМЫКАНЬНЕ

пах... укус тока
атака з агню і
курганок
попела
дар тут

---

Падказка: x—y≠y—x (Антыпаліндром).

## НА ЗАЯВУ РУБАМ — АДКАЗ КУЛЕМ!

— Паліндром і ні морд, ні лап
цешыць не здадзен... — Цішэць!
Тое ня так! (Кат я? Не!) От...
У-у, наце, пісьменнікі, і кінем сіпець. Ану!

---

Падказка: [Х—У] = [У—Х] (гукавы паліндром).

**ЗВОНКА!**

ЗвонкА зьвініць падваконьнік
ВонкІ натоўп гудзе (
й) ОнкА — пае паветра
(й) НкА — сатарскімі
К І — пцямі
А а а !

## АДЗІН ВЯСНОВЫ ДЗЕНЬ – ГОД БЕРАЖЭ

т а т а
а р а ў
т а т а
а ў а ў

---

Падказка: х—у = х
I
у

**МОСТ ПРАЗ РАКУ РУХОП**
**(2-х строф'е)**

П р а з с к о к у
р а к у Р у х о п
а к у л а Т а с а
з у л у с а х а ў

---

Падказка: х—у = х
I
у

**Мінскевіч С. — Туровіч А.**

## ПРОСТА БІЁНІКА
## (суцэльны вершатэкст)

к а р а к
а х а х а
р а д а р
а х а х а
к а р а к

---

x
I
Падказка: x—y=x=y—x=y
I
y

Сяргей МІНСКЕВІЧ
ПРАЗ ГАЛЕРЭЮ
Транслёгічныя творы
Сэрыя «Паэзія новай генэрацыі»
Рэдактар: А. АРКУШ.
Мастак: Х. Ясная.
Выдавецкая суполка «Полацкае ляда»,
1994 г.
Ліцэнзія ЛВ № 85.

Сдано в набор 14.11.94 г. Подписано в печать 9.6.95 г. Формат 60x84/32, печать высокая, печ. л. 2. Зак. 4633. Тир. 600.

Полоцкое полиграфическое предприятие «Наследие Ф. Скорины». 211400, г. Полоцк, ул. Гагарина-8.